ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР.

№ 32 (1566) | Пятніца, 21 красавіка 1961 года | Цана 4 кап.

## З Усесаюзнай фотавыстаўкі «Сямігодка ў дзеянні»



КРОКІ СЯМІГОДКІ. Фота К. Якубовіча.

Аляксандр ПРАКОФ'ЕЎ.

## РАЗЛІЎ

Бярозы, вольхі, зноў і зноў бярозы.
Асінкі тонкія прыніклі да зямлі
І казялец жаўцее каля плёсу.
Палянкі, пералескі.
Вось — Разліў...

Тут Ленін быў!
З тае якраз мінуты,
Як ён ступіў на гэты луг,
тады
Сцяна бярозак паднялася крута,
Замкнуўшы сцежкі і яго сляды.

І сышчыкі сюды не мелі ходу,
Яшчэ здаля іх апаноўваў страх.
Любоў вялікая вялікага народа
Ад ворагаў схавала гэты шлях,

Які пазней нас вывеў на вяршыні,
Пралёг праз сэрцы, поўныя агня,
Па тым шляху, вялікім і адзіным,
Хадзіла Рэвалюцыя штодня!

Пераклад С. Грахоўскага.

## Падпісваюцца на творы Леніна

Працоўныя Капыльскага раёна праяўляюць вялікую цікавасць да твораў Уладзіміра Ільіча Леніна. Толькі ў сёлетнім годзе каля ста працоўных раённага цэнтра і іншых населеных пунктаў падпісаліся на поўны Збор твораў. Сярод іх настаўнікі Капыльскай сярэдняй школы, работнікі раённай бальніцы, рабочыя і служачыя райпрамкамбіната, калгаснікі сельгасарцелі імя Ул. І. Леніна і інш.

М. СЯЎРУК.

# ЗЛАДЗЕЙСКІ НАПАД НА КУБУ АДБІТЫ

# Чорным хмарам рэакцыі не пагасіць сонца свабоды!

## Учора з сталіцы гераічнай Кубы—Гаваны паведамілі:

**У 3.15 раніцы па мясцоваму часу радыё Гаваны передало наступную заяву кубінскага ўрада.**

«Сілы паўстанцкай арміі і нацыянальнай міліцыі штурмам захапілі апошнія пазіцыі, якія наёмныя агрэсіўныя сілы займалі на нацыянальнай тэрыторыі на ўзбярэжжы Хірон. Гэты апошні пункт, які ўтрымліваўся наёмнымі сіламі, паў у 5.30 дня 19 красавіка. Рэвалюцыя атрымала перамогу, хоць за яе прыйшлося заплаціць высокай цаной — жыццямі рэвалюцыйных байцоў, якія няспынна вялі атаку, не аслабляючы націску ні на адзін момант, і знішчылі менш чым за 72 гадзіны цэлую армію, якую імперыялістычны ўрад Злучаных Штатаў ствараў на працягу многіх месяцаў. Ворагу было нанесена сакрушальнае паражэнне.

Частка наёмнікаў прабавала пагрузіцца на борт розных суднаў, але яны былі патоплены рэвалюцыйнымі сіламі. Рэшткі наёмных войск, панёсшы шматлікія страты забітымі і раненымі, рассеяліся ў забалочаным раёне, з якога немагчыма выйсці.

Была захоплена вялікая колькасць зброі паўночна-амерыканскай вытворчасці, у тым ліку цяжкія танкі тыпу «Шэрман». Захопленыя ваенныя матэрыялы яшчэ поўнасцю не падлічаны.

На працягу бліжэйшых некалькіх гадзін рэвалюцыйны ўрад прадставіць народу поўны даклад аб падзеях».

Камюніке падпісана галоўнакамандуючым рэвалюцыйнымі ўзброенымі сіламі Фідэлем Кастра.

# НЕ ВЫЙШЛА!

А. МІРОНАЎ.

Гэта горш, чым самая агідная здрада, самая чорная подласць: увесь зямны шар, усё чалавецтва планеты радуецца, славячы подзвіг першага касманаўта, і раптам — разбойніцкі, спадцішка ўдар у спіну народа гераічнай Кубы. Гэты ўдар тым больш агідны і подлы, што ён нанесены з ведама і — я ўпэўнен! — са згоды таго, хто амаль у гэтыя ж самыя дні перад усім светам заявіў: «Злучаныя Штаты Амерыкі не прымуць удзелу ў ваенных дзеяннях супраць Кубы».

Ды ці толькі ў цела народа Кубы ўсадзілі бандыцкі нож найміты, што высадзіліся на кубінскай зямлі? Не, атрутнае джала яго нацэлена ў самае сэрца ўсяго чалавецтва!

«Не прымуць удзелу ў ваенных дзеяннях»... — і ад Фларыды да Кубы ідуць дэсантныя караблі з ўзброенымі да зубоў галаварэзамі на борце. «Не прымуць удзелу»... — і ў Майані адбываецца адкрытая вярбоўка новых бандыцкіх зграй. «Не прымуць» — і «лятаючыя крэпасці», праўда, без апазнавальных знакаў на фюзеляжы, узнімаюцца з аэрадрома ў Гуантанама, каб бамбіць кубінскія гарады, а, ратуючыся ад кубінскіх самалётаў; уцякаюць пад прыкрыццё знішчальнікаў з белымі амерыканскімі зоркамі на крылах...

Дык што ж гэта азначае, як чалавецтва павінна разумець сказаныя на ўвесь свет словы прэзідэнта Кенедзі пра тое, што «ЗША не прымуць удзелу ў ваенных дзеяннях супраць Кубы»?!

У свеце вядома нямала прыкладаў іезуіцкай маны і вытанчанага фарысейства. Прадуманая да драбніц і старанна падрыхтаваная мана лічыцца ўлюбёным метадам антычалавечнай, антынароднай дзейнасці імперыялістаў. Вопытны злодзей самы першы ў натоўпе крычыць «трымай злодзея!», а граміла, які набіў руку на цёмных справах, актыўней за ўсіх сышчыкаў шукае сляды ўяўнага злачынцы ў кватэры, якую ён жа і абакраў. Але чалавецтва не стаіць на месцы ў сваім развіцці, яно няўхільна рухаецца наперад і наперад. І чалавецтва ведае, хто і каго вярбуе дзеля крывавай расправы над свабодалюбным кубінскім народам, на чые сродкі вярбуюцца гэтыя найміты, хто пастаўляе ім бомбы, снарады і самалёты, хто вучыць іх забіваць усіх да аднаго — мужчын, старых, жанчын і нават дзяцей.

Ведае і гучна ганьбіць тых, хто зманліва абяцае, што «не прыме ўдзелу ў ваенных дзеяннях на Кубе»!

Грозна і гнеўна гучыць сёння шматмільённы кліч народаў усіх кантынентаў зямнога шара:

— Прэч крывавыя рукі захопнікаў ад гераічнай Кубы! Янкі — не, Куба — так!

У гэтым магутным, як акіянскі вал, закліку зліліся галасы ўсіх, каму дарагі мір на зямлі, хто хоча спакойна дыхаць пад сонечным небам вясны, хто любіць сваіх дзяцей і марыць пра самае звычайнае шчасце для іх. У незлічоных кагортах абаронцаў Кубы, што як адзін чалавек узняліся на барацьбу па закліку сваіх сэрцаў, не толькі народы краін лагера сацыялізма, якія аднойчы — і назаўсёды скінулі з сябе ланцугі імперыялістычнай няволі. У гэтых кагортах — і мільёны людзей Азіі, якая абудзілася і набірае гіганцкія сілы, і чорная Афрыка, якая кіпіць у вызваленчых бітвах, і Лацінская Амерыка, якая таксама выпроствае плечы для барацьбы. У гэтых кагортах і простыя людзі Злучаных Штатаў, чый голас у абарону Кубы таксама гучыць сёння над нашай планетай.

І ў самых першых шэрагах непрымірымых і гнеўных барацьбітоў з агрэсарамі-фарысеямі з Пентагона і Белага Дома ізноў, як заўсёды, выступае наш мужны і магутны савецкі народ.

Гэта сказаў і кожны з нас, будаўнікоў камунізма, у Заяве Урада СССР у сувязі з узброеным нападам на Кубу:

— «...Савецкі Саюз, як і іншыя міралюбныя краіны, не пакіне ў бядзе кубінскі народ і акажа яму ўсю неабходную дапамогу і падтрымку ў справядлівай барацьбе за свабоду і незалежнасць Кубы».

«Што датычыць Савецкага Саюза, то не павінна быць памылковай думкі наконт нашай пазіцыі: мы акажам кубінскаму народу і яго ўраду ўсю неабходную дапамогу ў адбіцці ўзброенага нападу на Кубу», — гаворыцца ў Пасланні Старшыні Савета Міністраў СССР М. С. Хрушчова прэзідэнту ЗША Д. Кенедзі.

Сказана ясна, так, як заўсёды мы прывыклі гаварыць у тых выпадках, калі кучка нягоднікаў пагражае міру і спакою мільёнаў і мільярдаў людзей.

Чалавецтва ведае, што за кожным словам нашай праўды няўмольна і без хістанняў ідзе праўда дзеянняў.

Вось чаму наш голас зліваецца ў адно з галасамі народаў абодвух паўшар'яў, якія ў палымяным і гнеўным парыве справядлівасці абвяшчаюць:

— Прэч крывавыя рукі амерыканскіх наймітаў ад гераічнай Кубы!

Фідэля Кастра ведае ўвесь свет. Сціплы і мужны, як кожны, хто любіць жыццё, гнеўны і грозны да ворагаў, як увесь кубінскі народ, ён— і ўвасабленне шасці мільёнаў кубінцаў у іх справядлівай барацьбе з агрэсарамі, і іх сцяг перамогі, і іх правадыр у гэтай барацьбе. Няхай іх нямнога на Кубе, няхай усяго толькі крыху больш шасці мільёнаў чалавек. Але хто на планеце не чуе поўны ўпэўненасці і веры голас Фідэля? Хто не згодзіцца пакінуць на час самыя тэрміновыя, неадкладныя свае справы, свой дом і сваю сям'ю, каб са зброяй у руках, няхай у самай жорсткай, самай кровапралітнай бітве стаць побач з Фідэлем і яго саратнікамі на абарону не толькі Кубы, але і ўсяго, што свяшчэннае і дарагое ўсім нам?

«Калі народ разам дзьмухне, — сцвярджае старажытная кітайская пагаворка, — ураган будзе; калі народ разам тупне нагой — землетрасенне будзе».

А калі народы планеты сталёвай сваёй рукою сцісн уць тлустае ад поту і крыві прыгнечаных народаў горла амерыканскіх агрэсараў, у гэтых магутных абцугах задушацца не толькі найміты, што прадаліся за звон Жоўтага Д'ябла, але і тыя, хто у імя гэтага Д'ябла гатовы асудзіць на лютыя пакуты і смерць усё чалавецтва ўсёй планеты.

І народы ўжо сціснулі гэтыя абцугі. Усё мацней, усё тужэй. Іх не паслабіць бандытам, якія пад покрывам начы і пад прыкрыццём амерыканскіх лінкораў падбіраліся да чужых берагоў. Іх не разарваць вылюдкам заакіянскай сталіцы, якія накіроўвалі і накіроўваюць нож у спіну чалавецтва, што жадае міру і шчасця.

Як ні стараліся яны ашукаць народы свету сваёй каварнай манай, як ні маскіравалі свой удзел у здрадніцкім нападзе на Кубу — не выйшла!

Над усёй кубінскай зямлёй зноў горда лунае сцяг свабоды і рэвалюцыі. Апошнія недабіткі-бандыты баязліва ўзнімаюць рукі, просячы літасці. Гэта — перамога народа Кубы. Гэта—перамога ўсяго прагрэсіўнага чалавецтва.

Людзі Зямлі гавораць:

— Не выйшла і ніколі не выйдзе!

## Песні пра героя

У гонар легендарнага подзвігу слаўнага Героя Савецкага Саюза першага лётчыка-касманаўта СССР Ю. Гагарына беларускія кампазітары напісалі новыя песні.

«Навекі легендарны»—так назваў сваю песню на словы М. Гелера Ю. Сямяняка. Народны артыст Саюза ССР Я. Цікоцкі напісаў песню «У высь касмічнага прастору» (словы Н. Гілевіча). Новую песню на тэкст Е. Лось піша Д. Камінскі. «Помні гэты дзень» — так называецца песня Г. Вагнера (словы Г. Бураўкіна). Песню аб Гагарыне на тэкст А. Рамава «Першы» напісаў канцэртмайстар Беларускага тэатра оперы і балету В. Зубкоў.

Вакальныя творы, прысвечаныя першаму ў свеце пакарыцелю космасу, уключылі ў свой рэпертуар харавыя калектывы і майстры мастацтва рэспублікі.

М. ЮР'ЕЎ.

## Фільмы польскіх сяброў

У сувязі з 16-й гадавінай з дня падпісання Дагавору аб дружбе, узаемнай дапамозе і пасляваенным супрацоўніцтве паміж СССР і Польшчай на многіх гарадскіх і сельскіх кінаўстаноўках рэспублікі ў гэтыя дні арганізаваны шырокі паказ фільмаў вытворчасці кінастудый Польскай Народнай Рэспублікі.

З вялікай цікавасцю беларускія гледачы праглядаюць кінакарціны «Чалавек на рэйках», «Гэтага нельга забыць», «Справа пілота Марэша», «Падгалле ў агні», «Двое з вялікай ракі», «Замах», «Арол», «Капялюш пана Анатоля», «Хто ён?», «Незвычайная кар'ера» і многія іншыя.

Пра лёс польскага лётчыка Стэфана Зарэмбы, які ўдзельнічаў у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, расказвае мастацкая кінааповесць «Гісторыя аднаго знішчальніка».

Курсантам марской школы, у якой дзеці рабочых і сялян вучацца жыць і працаваць па-новаму, прысвечана кінакарціна «Каманда». Аўтар сцэнарыя — Ян Раеўскі, рэжысёр-пастаноўшчык — Ян Фетке.

У аснову фільма «Канал» пакладзены эпізоды варшаўскага паўстання ў верасні 1944 г.

На экранах рэспублікі пачалі дэманстравацца два новыя польскія мастацкія кінафільмы «Скандал з-за Басі» і «Маленькія драмы».

С. КАРОТКІ.

## Іх слухалі ў Пермі

Выступленні беларускага кампазітара і піяністкі В. Жубінскай з поспехам прайшлі ў Пермі. У сольным канцэрце артыстка выканала фартэпіянныя санаты заходніх кампазітараў—Ф. Ліста, В. Моцарта і Л. Бетховена.

У сімфанічным канцэрце яна выканала 5-ты канцэрт С. Рахманінава для фартэпіяна з аркестрам. Дырыжыраваў гэтым канцэртам беларускі дырыжор В. Барсаў. Пад яго кіраўніцтвам прагучалі таксама «Струнная серанада» П. Чайкоўскага, уверцюра К. Вэбера «Эўрыянта» і «Канцэрт-Гроса» Гендэля.

Пермякі вельмі цёпла сустрэлі артыстаў з Беларусі.

## Выстаўка дзіцячай творчасці

У Гродна адкрыта выстаўка дзіцячай мастацкай творчасці.

Экспануюцца малюнкі «За Нёманам» Валодзі Стахава, «Новы квартал Гродна» Дзімы Матронічава, «Новы пейзаж» Колі Мятлева, «Вакзал» Галі Баравой і інш.

Сярод скульптурных твораў пераважаюць тэмы казачнага, байкавага характару: «Ліса і Журавель» Аркашы Сенакосава, «Квартэт» Алега Трацякова. Але побач з творамі на сюжэты крылоўскіх баек ёсць і сучасныя творы: «Маладагвардзеец» і «Суворавец» Сашы Анціпіна, «Калгасніца» Вовы Геманосава і інш.

Ёсць творы, якія маюць мастацкую закончанасць. У рабоце «За Нёман» ужо прыкметна веданне перспектывы, умелы падбор фарбаў, дзякуючы чаму малюнку не ўласцівы празмерная яркасць і вонкавая прыгажосць.

...Зімовы дзень. На пярэднім плане відзён аўтобус, з якога выйшлі рабочыя і хутка крочаць у напрамку да будоўлі. На другім плане відны шматпавярховыя будынкі ў рыштаваннях, якія нібы наступаюць на старыя драўляныя домікі, што прытуліліся непадалёку ад іх. Там жа, у двары новага дома паказаны дзеці, якія лепяць снежную бабу. Сюжэт просты і ў той жа час поўны сэнсу.

Студыяй юных мастакоў кіруе малады мастак К. Пятроў, які працуе ў Гродзенскіх мастацкіх майстэрнях. Кіраўнік скульптурнай групы — В. Даненкаў.

Можна спадзявацца, што гэтая выстаўка, якая з'яўляецца першай творчай справаздачай перад грамадскасцю, навучыла іх многаму, узбагаціла іх вопыт і дапамагла знайсці лепшыя метады для падрыхтоўкі юных мастакоў.

В. БАЛДАЕЎ.

# ЗОРНЫ ПАЛЁТ

Ёсць штосьці знамянальна-сімвалічнае ў тым, што савецкі грамадзянін, малады камуніст Юрый Гагарын зрабіў свой гістарычны подзвіг напярэдадні дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна.

З гэтага года кожны раз, падводзячы велічныя вынікі ўрачыстасці жыватворчых прынцыпаў ленінізма, чалавецтва будзе на адно з самых першых месц ставіць і Гагарынскі аблёт планеты з хуткасцю 28 тысяч кіламетраў у гадзіну на недасягальнай да гэтага часу вышыні.

Цяпер увесь капіталістычны свет устрывожаны, яго завадатары разгневаны, раз'юшаны, скрыгочуць зубамі, у бяссіллі сціскаюць кулакі. Яны абняслаўлены, бо няма больш здзеклівай іроніі лёсу, чым тое, што ў адзін і той жа час савецкі зоркалёт «Усход» за 108 хвілін абляцеў планету і прызямліўся ў зададзеным месцы, а амерыканскі спадарожнік ганебна пляснуўся ў лужыну. Прэзідэнт Амерыкі Кенедзі не саромеецца прызнацца, што яму абрыдла ўжо адставанне яго краіны ад Савецкага Саюза ў развіцці навукі. Урад Злучаных Штатаў шукае новыя мільярды для ўдасканалення сваіх ракет. Але ці ў адных мільярдах справа?!

Завадатарам буржуазнага свету цяжка зразумець і прымірыцца з тым, што капіталістычны свет ужо даўно асуджаны плесціся ззаду ў спаборніцтве з маладым светам сацыялізма.

Такія сусветна-гістарычныя падзеі, як палёт Юрыя Гагарына ў космас, прасвятляюць розум і думкі мільёнаў простых людзей свету. Цяпер ужо самым заўзятым буржуазным эканамістам, філосафам, палітыкам не ўдасца даказаць, што першынство Савецкага Саюза ў пакарэнні космасу мае выпадковы характар. Мы перамагаем і канчаткова пераможам у мірным спаборніцтве таму, што ў нас передавы палітычны і эканамічны лад, які можа даць сапраўды неабмежаваны прастор для разгортвання духоўных сіл народа.

Гэта прадказваў геній вялікага Леніна. Уладзімір Ільіч бачыў сацыялістычны лад як неабходную ўмову магутнага развіцця навукі і тэхнікі. Яшчэ паўстагоддзя назад, крытыкуючы разгубленых ідэалістаў, якія ў сувязі з расшчапленнем атама заявілі, што, урэшце, матэрыялізм пацярпеў крах, бо, маўляў, «матэрыя знікла», Ленін паказаў, што і такая навука, як фізіка, можа паспяхова развівацца толькі на аснове матэрыялізму. Даўшы філасофскае абгрунтаванне навейшым дасягненням і адкрыццям у галіне фізікі і прыродазнаўства, падкрэсліўшы, што прырода бясконцая, ён пісаў: «Розум чалавечы адкрыў многа дзівоснага ў прыродзе і адкрые яшчэ больш, павялічваючы тым сваю ўладу над ёй...».

Ленін падкрэсліў таксама, што прырода больш падпарадкуецца і хутчэй скараецца чалавечаму розуму, калі ён сам не заражаны хваробамі капіталістычнага ладу, калі ён не выстаўляе на першы план канкурэнцыю, чыстаган, барыш. «Цывілізаванае варварства» — так трапна назваў Ленін гісторыю зрыву імперыялістамі будаўніцтва тунеля пад Ламаншам для хутчэйшых зносін паміж Англіяй і Францыяй. Інжынеры зрабілі разлікі, даказалі зручнасць, эканамічную эфектыўнасць такіх зносін. Але тунеля няма і да сённяшняга дня. Аказваецца, англійскія імперыялісты падыйшлі да справы з пункту гледжання ваенных авантур, яны заявілі, што тунель можа аблегчыць французам напад на Англію. Ленін назваў такія меркаванні варварствам, вар'яцтвам.

Ці не бачым мы праяў цывілізаванага варварства і ў справе вырашэння капіталістычнымі дзяржавамі праблемы пакарэння космасу? Хіба ў Амерыцы ўжо не прадаваліся мандаты на права размяшчэння ваенных баз на Месяцы і на Марсе? Мільярдэру, які адпускае свае мільярды на будаўніцтва касмічных караблёў, напэўна ўжо сняцца сны аб новых шахтах і плантацыях на Марсе, дзе марсіяне, заліваючыся потам, накіроўваюць паток золата ў падзямеллі банкаў Уол-стрыта.

Як далёка ад брудных мэт нажывы, бізнесу мэта нашай, савецкай навукі. Ля калыскі гэтай навукі стаяў Ленін. Ён быў яе арганізатарам і натхніцелем. Ён убачыў невычарпальнае мора талентаў у асяроддзі рабочых і сялян. Ленін гаварыў, што гэтыя таленты абвергнуць паклёпы буржуазіі на просты народ, які быццам бы не здольны да творчасці, і пераатвараць убогую і бяссільную Русь у багатую і магутную краіну. Сочачы асабіста за першымі парасткамі савецкай навукі і тэхнікі, Ленін у 1920 годзе ўласнаручна напісаў праграму разгортвання работ «па вылучэнню здольных адміністратараў, арганізатараў, вынаходцаў з асяроддзя рабочай і сялянскай масы». І сёння яны, гэтыя здольныя вынаходцы і арганізатары, збудавалі міжкантынентальныя ракеты, накіравалі спадарожнікі на Месяц і Венеру, далі свету такое цуда тэхнікі, як касмічны карабель «Усход», на якім слаўны герой Юрый Гагарын абляцеў планету. Наследнікі рэвалюцыйных ленінскіх традыцый, савецкія людзі, здзіўляць заўтра свет новымі адкрыццямі. Мы ўпэўнены, што нашы касмічныя караблі паляцяць неўзабаве на далёкія планеты. І паляцяць не для таго, каб захапіць там прастору і пабудаваць ваенныя палігоны ці базы для запуску смертаносных ракет і бомб, а для таго, каб дапамагчы чалавецтву жыць мірна, без страху, без войнаў, без канкурэнцыі, без хвароб, жыць шчасліва, доўга. Як хораша і хвалюючча гучаць словы першага касманаўта Юрыя Гагарына, што ў космасе хопіць месца ўсім!

Подзвіг Савецкай краіны, які на мовах усіх народаў свету названы пачаткам новай эры, з'яўляецца яшчэ адным яркім сведчаннем жыццяздольнасці і непераможнасці сацыялістычнага грамадства. Будучыня чалавецтва звязана з ленінскімі ідэямі. Гэта неабвержны факт.

Заўтрашні дзень гісторыі бачыцца нам як новы росквіт чалавечага генія. Жывой явай стануць самыя светлыя мары людзей мінулага і сучаснага, ажыццёвяцца казачныя фантазіі аб волатах, якія з неймавернай хуткасцю ўзводзяць грандыёзныя палацы, рассейваюць змрок ночы, даюць новыя напрамкі рэкам, лятаюць на самыя далёкія планеты сонечнай сістэмы.

Калісьці Уладзімір Маякоўскі казаў, што «бедна у мира слова мастерская», каб выказаць імі свае пачуцці.

Сёння мы асабліва адчуваем, як свету не хапае слоў, як нават самыя выдатныя мастакі не могуць знайсці такіх трапных, такіх моцных, такіх хвалюючых, такіх свежых слоў, каб у поўнай меры перадаць сваё захапленне легендарным подзвігам нашага народа, мудрасцю і веліччу Камуністычнай партыі, якая выхоўвае пакаленні Гаганавых і Гагарыных, арлінае племя змагароў за шчасце людзей усяго свету, за мір і радасць на зямлі.

Васіль БУРНОСАЎ.

## Лекцыі і канферэнцыі

Мінчане шырока адзначаюць 91-ю гадавіну з дня нараджэння заснавальніка Камуністычнай партыі і першай у свеце сацыялістычнай дзяржавы Ул. І. Леніна. На заводах і фабрыках, на будоўлях і ў ВНУ чытаюцца лекцыі аб жыцці і рэвалюцыйнай дзейнасці Ільіча, аб ажыццяўленні вялікіх ленінскіх прадвызначэнняў.

У радзе месц праводзяцца тэарэтычныя канферэнцыі. У Міністэрстве вышэйшай, сярэдняй спецыяльнай і прафесіянальнай адукацыі БССР канферэнцыя была прысвечана тэме «Ленінскі стыль работы дзяржаўнага апарату». Прачытана чатыры даклады. У іх абмеркаванні прынялі ўдзел 15 чалавек. Яны гаварылі аб ленінскім стылі работы, падборы і расстаноўцы кадраў, рэагаванні на скаргі і прапановы працоўных.

У Ленінскім раёне рыхтуецца тэматычны вечар, прысвечаны жыццю і дзейнаасці Ул. І. Леніна. На ім выступяць старыя камуністы. Затым адбудзецца канцэрт, у праграму якога ўключаны любімыя творы Ільіча. У Акцябрскім раёне адбудзецца вечар працоўных на тэму «Ленін пра абарону сацыялістычнай дзяржавы». Тэматычныя вечары праводзяцца і ў іншых раёнах сталіцы. У школах і ВНУ горада выступаюць старыя бальшавікі. Яны расказваюць моладзі аб незабыўных сустрэчах з Уладзімірам Ільічом Леніным, аб слаўных днях вялікага Кастрычніка, барацьбе савецкага народа з замежнай ваеннай інтэрвенцыяй і ўнутранай контррэвалюцыяй.

Памяці вялікага правадыра прысвячаюцца выстаўкі літаратуры і фотаілюстрацый, адкрытыя ў культасветустановах. У кінатэатрах арганізуецца тэматычны паказ кінафільмаў.

(БЕЛТА).

## ВЯСНОВЫЯ ЗАМАЛЁЎКІ

З блакнота мастака Л. ЗАМАХА

І дзеці здабываюць метал.

Мачты памаладзеюць

Тут неўзабаве зацвітуць кветкі

Хутка экзамены

## Дуброва імя Адама Міцкевіча

На адной з ускраін сяла Шчорсы, што на Навагрудчыне, стаіць стары разгалісты дуб. Пад зялёным шатром яго любіў адпачываць вялікі польскі паэт Адам Міцкевіч. Адсюль выдатны мастак слова любаваўся велічным відам сівога Нёмана, тут ён марыў, працаваў над паэмай «Гражына» і многімі іншымі сваімі творамі.

Мясцовае насельніцтва свята ўшаноўвае памяць паэта. Дуб даўно стаў жывым экспанатам Навагрудскага Дома-музея А. Міцкевіча. Ён абнесен агарожай, ля якой устаноўлен шчыт з тэкстам, што расказвае аб знаходжанні Адама Міцкевіча ў Шчорсах.

Старое дрэва яшчэ пладаносіць. Восенню 1959 года работнік Любчанскага лясніцтва Васіль Міхайлавіч Логаш сабраў пад ім некалькі кошыкаў жалудоў і вясной наступнага года высеяў іх у гадавальніку. Насенне дало добрыя ўсходы. Дрэўцы дасягнулі ўжо вышыні 30—40 сантыметраў. В. М. Логаш пачаў пасадку маладых дубкоў на спецыяльна выдзеленым участку. Новая дуброва будзе названа імем Адама Міцкевіча.

## НОВЫ ЖЫХАР ЗААПАРКУ

У рэдакцыю пазванілі з Гродна. Дырэктар заапарку Л. Шайкоўскі паведаміў цікавы факт: у няволі нарадзіўся бычок — сібірскі як. Гэта не першы выпадак, але з'ява даволі рэдкая. Новы жыхар заапарку адчувае сябе добра...

Чытачам цікава будзе ведаць, што некаторыя гадаванцы Гродзенскага заапарку раз'ехаліся па свеце. Ільвіца Марта, напрыклад, ужо некалькі разоў давала прыплод. Калі ільвяняты падгадоўваліся, іх перадавалі ў іншыя заапаркі. Так, нядаўна з Гродна ў Калінінград пераехаў адзін з гадаванцаў. Перабраліся ільвы і за мяжу — у Пекінскі заапарк.

З кожным годам заапарк Гродна папаўняецца. У бліжэйшы час тут чакаюць жыхароў Маскоўскага заацэнтра: тыгра, зебру, чорных лебедзяў і вярблюдаў. У заапарку каля 600 экспанатаў, якія прадстаўляюць 122 віды звяроў і птушак жывёльнага свету СССР, Афрыкі, Аўстраліі, Паўднёвай і Паўночнай Амерыкі.

# Падзеі, факты, навіны

Днямі ў пасёлку Мінскага падшыпнікавага завода па вуліцы імя Жданава адкрыўся новы двухзальны шырокаэкранны кінатэатр «Камсамолец» на 800 месц.

**На здымку:** кінатэатр «Камсамолец». Фота **М. Мінковіча.**

## Калі адрас невядомы

Гэтае пісьмо ў Мінскае адраснае бюро прыбыло з Клайпеды. Пісьмо, як пісьмо. А вось і яго змест: «Дарагія таварышы! Вельмі прашу паведаміць, дзе жыве грамадзянін Чарнышоў. На жаль, імя, імя па бацьку і года нараджэння не памятаю. Ведаю толькі, што да Айчыннай вайны жыў у вёсцы Баратчына Мінскай вобласці. З павагаю М. Ганчарова».

Няма чаго казаць, заданне не з лёгкіх, ды і Чарнышовых у адрасным бюро налічваецца больш ста. Каго ж з іх шукаюць? Для рэгістратара Ніны Гарбаценка і яе саслужыўцаў клопату не на адзін дзень.

І ўсё ж М. Ганчаровай быў пасланы адказ. У ім паведамлялася, што Ісай Іванавіч Чарнышоў, 1885 года нараджэння, апошні час жыў па адрасу: Глуск, Сацыялістычная, 76-а, нядаўна выехаў у горад Мурам Уладзімірскай вобласці...

Шмат пісем паступае ў адраснае бюро. Адны шукаюць таварышаў па працы ці вучобе, другія наводзяць даведкі аб сваяках, трэція аднаўляюць згубленыя адрасы.

— Нам вельмі прыемна, калі многім удаецца дапамагчы, — гаворыць начальнік бюро С. Фёдараў. — Па астатніх просьбах вядуцца самыя старанныя пошукі. А пісьмы шлюць не толькі жыхары рэспублікі. Яны прыходзяць з самых далёкіх куткоў краіны, а на некаторых канвертах стаіць штэмпель «зарубежнае». У сярэднім за дзень набіраецца 200—400 пісем.

Шмат клопату прыносяць пісьмы са скупымі звесткамі. Часам, дзякуючы толькі настойлівасці і ўпартасці работнікаў бюро ўдаецца знайсці патрэбны адрас. Узяць хоць бы нядаўні выпадак.

Задумалі піянеры Хойніцкай сярэдняй школы № 1 Гомельскай вобласці скласці летапіс сваёй дружыны. Шмат цікавага з мінулага роднай школы мог бы ім расказаць першы піянерважаты М. Гарошка. Але дзе ён цяпер? Ці жывы? Калі жывы, як знайсці яго? З такой просьбай і звярнуліся ў адраснае бюро школьнікі. Яны ведалі, што піянерважатага звалі Мікалай, і да вайны ён жыў у Мінску.

Але зусім не думалі піянеры, што ў сталіцы рэспублікі жыве каля 300 Гарошкаў і палавіна з іх — Мікалаі. Пасля доўгіх пошукаў М. Гарошка, які жыве па вуліцы Апанскага, аказаўся былым хойніцкім піянерважатым.

**К. АЗІН.**

## Грамата ўручана праз семнаццаць год

Гэта было крыху больш 17 год таму назад. Пры фарсіраванні Дняпра вызначыўся Мікалай Сафронавіч Байкоў. У адным з баёў ён загінуў смерцю храбрых.

Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 16 кастрычніка 1943 года яму пасмяротна было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

У тыя цяжкія дні лёс раскідаў невялікую сям'ю Байковых па розных месцах, і грамату Героя Савецкага Саюза не было каму ўручыць. Увесь гэты час вяліся пошукі блізкіх сваякоў Мікалая Сафронавіча. І вось нядаўна работнікам Смалявіцкага райваенкамата ўдалося ўстанавіць, што маці героя Ірына Якаўлеўна і яго сястра Ніна Сафронаўна жывуць у гарадскім пасёлку Жодзіна.

У прысутнасці прадстаўнікоў грамадскасці адбылася ўрачыстая перадача граматы Героя Савецкага Саюза на захоўванне яго маці.

Любяць спяваць у Пружанах. Наш пазаштатны фотакарэспандэнт Ул. Карпук зрабіў фота жаночай групы хору гандлёвых работнікаў у час выканання песні «Папрадуха».

# НЕ СТРЫМАЦЬ, НЕ СПЫНІЦЬ!

Музыка Р. ПУКСТА. Словы Янкі ЖУРБЫ.

*Moderato assai*

Не стрымаць, не спыніць нас сягоння
У нашай дружнай і радаснай працы!
Усё шырэй засяваем мы гоні.
Свайго часу мы марна не трацім.

Прыпеў:

Камсамол, смялей уперад!
Мы шчыльней, шчыльней самкнём рады.
Свет увесь хай бачыць поступ
Камсамольскай грамады!

З імем Леніна ў сэрцах арліных
Новы быт мы будуем у краі,
К камунізму ідзём мы няспынна,—
Наша партыя шлях вызначае.

Прыпеў:

Мы ўзмацняем магутнасць Айчыны,
Гмахі ўзводзім на месцы руінаў,
Цаліну мы ўзнімаем імкліва,
Каб квітнела заможнасць краіны.

Прыпеў:

## Музей у школе

Напярэдадні дзевяностагоддзя з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча, якое адзначалася ў мінулым годзе, вучні Мар'іна-Горскай сярэдняй школы № 3 вырашылі стварыць свой ленінскі музей. Напісалі лісты ва ўсе мясціны, дзе бываў Ул. І. Ленін. Звярнуліся з просьбай да людзей, якія сустракаліся з вялікім правадыром, каб яны даслалі ўспаміны пра гэтыя сустрэчы.

Першым адгукнуўся Дом-музей ва Ульянаўску. Адтуль прыслалі рэпрадукцыі з карцін, фота, кнігі. Праз нейкі час з матэрыялаў, прысланых новымі сябрамі вучняў, у школьным музеі стварыўся багаты фонд. Тут і ўспаміны старых бальшавікоў І. Жураўлёва, Г. Губанскай, П. Заслаўскага пра сустрэчы з Ільічом, і арыгінал партрэта Леніна, выкананы мастаком П. Жукавым, і фота народных артыстаў Платонава і Малчанава ў ролі Леніна, і ўспаміны Платонава «Як я працаваў над вобразам Леніна», і ноты «Песні аб Леніне» кампазітара Аладава, і ўспаміны асабістага сакратара Уладзіміра Ільіча А. Фоціевай, і рукапіс верша М. Ісакоўскага аб правадыру працоўных. Бацька вучня П. Канавалава прыслаў нумар ленінскай «Іскры». Стары бальшавік М. Ацянкоў, які двойчы прыязджаў у школу, пакінуў для музея свае ўспаміны.

Асабліва парадаваў школьнікаў ліст ад члена Прэзідыума ЦК КПСС т. Куусінена, у якім выдатны камуніст віншаваў ініцыятараў стварэння музея. А неўзабаве прыйшоў ліст і з ГДР ад выдатнага рэвалюцыянера-ленінца Вільгельма Піка. Прыслалі свае фота Янаш Кадар, Мао Цзэ-дун.

Вучні завязалі перапіску са школамі ўсіх гарадоў Еўропы, у якіх бываў Ленін, пасылалі туды кнігі на роднай мове пра Ільіча і адтуль атрымоўвалі кнігі і газеты на розных мовах. Асабліва актыўна ўдзельнічала ў гэтай рабоце былая вучаніца 10 класа Таня Зюмчанка. Цяпер яна працуе піянерважатай і ўвесь вольны час аддае музею.

Музей знаходзіцца ў звычайным класным пакоі, у якім на сценах і стэндах размешчаны экспанаты.

Пад шклом — газеты на ўсіх мовах свету, прысвечаныя 90-годдзю Леніна. Тут жа — канверты, у якіх яны прысланы, са штампамі Масквы, Кіева, Парыжа, Лондана, Варшавы, Берліна, Пекіна. На стэндах — фатаграфіі, успаміны, лісты, рэчы.

Вучні А. Лазавая, Т. Зюмчанка і В. Баландзіна з дапамогай настаўнікаў зрабілі вялікую маляўнічую карту мясцін, дзе пабываў Ленін. На гэтай карце сцяжкамі адзначаны Шушанскае, Масква, Парыж, Жэнева Лазана, Лондан, Прага і іншыя гарады і мясціны.

Партрэт Леніна вышыла вучаніца 10 класа Баландзіна. Цікавыя малюнкі вучня 6 класа Каламійца. Сярод матэрыялаў музея — верш пра Леніна вучня 5 класа Б. Мардуховіча, класнае сачыненне вучаніцы 4 класа Іны Кіпніс.

З усіх канцоў краіны і з-за мяжы прыбываюць усё новыя і новыя экспанаты.

Кіраўнік музея Аляксандра Паўлаўна Міненка з гордасцю паказвае нам Дэкрэт аб міры, Дэкрэт аб зямлі, Дэкларацыю правоў народаў Расіі. У музеі ёсць апытальны ліст, запоўнены Леніным, калі ён вяртаўся з ссылкі 2 красавіка 1917 г. праз пагранічны пункт Тарнео.

Ёсць у музеі і работа кітайскіх вучняў—партрэты Леніна і Мао Цзэ-дуна на шоўку, чырвоны гальштук чэхаславацкіх піянераў, матэрыялы з Пражскага музея, з Пароніна, з Парыжа.

У пакоі музея праводзяцца ўрачыстыя сходы, прыём у піянеры, у камсамол, у акцябраты. Тут па рашэнню педсавета і камсамольскай арганізацыі займацца мае права толькі самы лепшы клас. Цяпер тут вучацца сямікласнікі.

Музей наведала звыш пяці тысяч чалавек: вучні блізкіх і далёкіх школ, удзельнікі розных нарад, калгаснікі і рабочыя, Героі Савецкага Саюза і Героі Сацыялістычнай Працы. Усе яны пакідаюць шчырыя запісы ў кнізе водгукаў музея. Стары бальшавік Ацянкоў і Герой Савецкага Саюза Такуеў, пісьменнік генерал Аляксееў і работніца Цэнтральнага музея імя Ул. І. Леніна Абічкіна ў сваіх запісах адзначаюць вялікае значэнне музея ў справе выхавання вучняў, выносяць падзяку яго стваральнікам. Былыя вучні школы, выпускнікі 1955 г., пішуць:

«Мы ганарымся тым, што ў нашай школе створан такі музей. Вы малайцы, рабяты!»

У заключэнне і мы скажам, што нельга не радавацца ад душы за тых, чыімі рукамі створаны гэты цудоўны музей. Жыццё Ільіча, яго вучэнне будзе для іх, як і для ўсіх савецкіх людзей, нязгасным сонцам у жыцці.

**М. СКРЫПКА.**

## 2 тысячы спектакляў, 900 тысяч гледачоў

На творчай сустрэчы, прысвечанай абмеркаванню работы Тэатра юнага гледача, міністр культуры БССР Р. Я. Кісялёў назваў красамоўныя лічбы, якія сведчаць аб высакароднай і плённай дзейнасці калектыву. На яго сцэне пастаўлена 30 прэм'ер. 2 000 паказаў наведала 900 000 гледачоў.

У дакладзе дырэктара Ул. Стэльмаха, у выступленнях студэнткі ўніверсітэта Л. Трохан, вучня першай Мінскай школы-інтэрната В. Зузнова, рабочага Мінскага трактарнага завода Р. Трошына, настаўніцы І. Тапкаевай, прадстаўніка Савецкай Арміі палкоўніка Ул. Казлова і іншых было многа цікавага сказана аб рэпертуары тэатра, дзейнасці акцёрскага калектыву і яго рэжысуры, пра сувязі з юнымі і маленькімі гледачамі.

Тэатру належыць выдатная ініцыятыва першаадкрывальніка новых здольных беларускіх драматургаў. На яго сцэне паказаны спектаклі па першых п'есах — вясковага настаўніка І. Козела («Папараць-кветка»), празаіка І. Шамякіна («Не верце цішыні»), паэтаў А. Вольскага і П. Макаля («За лясамі дрымучымі»), віцебскага настаўніка Е. Пасава («Аркадзь Жыгалкін») і інш.

Чулае стаўленне да маладых аўтараў галоўнага рэжысёра Л. Мазалеўскай і ўсяго творчага калектыву, поспех гэтых спектакляў спрыялі таму, што садружнасць тэатра з беларускімі пісьменнікамі мацнее і пашыраецца. Так, напрыклад, новую п'есу І. Козела «На хвалях Серабранкі» аб калгаснай моладзі тэатр рыхтуе для паказу ў дні XXII з'езду КПСС.

Сучаснасць — галоўная тэма рэпертуару маладога тэатра. З юнымі героямі нашых дзён гледачы пазнаёміліся на спектаклях «Няроўны бой», «Учора ў Касаткіне», «На граніцы», «Дзяўчына з вяснушкамі», «Квартэт Алямбар».

Шырокая «геаграфія» дзейнасці тэатра. Яго спектаклі, апрача Мінска, былі паказаны ў Маскве (на сцэнах Крамлёўскага тэатра і Маскоўскага тэатра юнага гледача), у Кіеве, Рызе, Ленінградзе, у Магілёве, Гомелі і многіх раёнах Беларусі. Творчы калектыў двойчы выязджаў на цалінныя землі Казахстана. У летнім сезоне артысты зноў збіраюцца наведаць Цалінны край.

Тэатр — шэф мастацкай самадзейнасці і Баранавіцкага народнага тэатра.

Шчырыя, цёплыя словы былі сказаны на сустрэчы аб майстэрстве і творчай культуры спектакляў тэатра, у якіх плённа выкарыстоўваюцца і развіваюцца нацыянальныя рэалістычныя традыцыі купалаўцаў і коласаўцаў, а таксама здабыткі ўсесаюзнай савецкай сцэны. І разам з тым акцёрскі калектыў спрабуе выпрацаваць свой «почырк», уласную творчую манеру, імкнецца да гераічнай рамантыкі і паэтычнасці, да стварэння трывалага мастацкага ансамбля ў спектаклях, дзе галоўная ўвага аддадзена раскрыццю ўнутранага свету савецкага маладога чалавека.

Былі выказаны слушныя парады тэатру. Яго мастацтва павінна яшчэ больш адпавядаць высокім эстэтычным густам савецкіх людзей і задачам камуністычнага выхавання юнацтва.

У рэпертуары тэатра яшчэ няма сучаснай сцэнічнай казкі для маленькіх. У стварэнні яе павінны прыняць удзел беларускія пісьменнікі, якія пішуць для дзяцей і маюць вопыт у гэтым жанры.

Глыбей адлюстроўваць жыццё, высакародныя подзвігі будаўнікоў камунізма, выдатныя дасягненні савецкіх вучоных, інжынераў, герояў космасу — такія пажаданні былі выказаны калектыву маладога тэатра.

**З. ІЛЬІН.**

У ЛАБАРАТОРЫЯХ ВУЧОНЫХ

## Чарадзейныя прамені

Намеснік дырэктара Інстытута энергетыкі Беларускай Акадэміі навук Бекір Міхайлавіч Смольскі звярнуўся да светлавалосай дзяўчыны:

— Правядзіце, калі ласка, таварышаў у лабараторыю Жыхарава.

З другога паверху падымаемся на трэці. У канцы калідора паказаўся высокі мужчына ў беласнежным халаце і знік у пакоі.

Праз мінуту мы ўжо знаёмімся з гэтым маладым і, на першы погляд, негаваркім чалавекам.

— Хочаце паглядзець, як служаць нам ізатопы? — як бы ўгадаў Яўген Аляксандравіч Жыхараў наша пытанне. — Калі ласка. Перад намі радыёактыўны лічыльнік. Як бачыце, ён складаецца з трох элементаў — электраімпульснага лічыльніка, радыёактыўнага блока і прыёмніка радыёактыўнага выпраменьвання.

Яўген Аляксандравіч хутка правёў рукою паміж блокам і прыёмнікам, і ў шкляным акенцы з'явілася лічба 1. Правёў другі раз — і адзінку змяніла двойка. Рука пачала рухацца туды-сюды, а лічыльнік паказваў беспамылкова: 3, 4, 5, 6, 7...

— Так можна далічыць да ста тысяч, — сказаў Я. Жыхараў, — а потым павярнуць ручку і зноў пачаць з нуля.

— У нашай лабараторыі ёсць некалькі ізатопаў: талій-204, кобальт-60, цэзій-137, тулій-170, стронцый-90. Вось гэты апошні, стронцый-90, мы і прымусілі працаваць у прыборы, які вы бачыце.

Чым далей гутарыш з кандыдатам тэхнічных навук Жыхаравым, тым больш пераконваешся ў тым, што лабараторыя радыёактыўных ізатопаў, якой ён кіруе, робіць вельмі карысную справу.

У бліжэйшы час інстытут адправіць віцебскай фабрыцы «КІМ» першы прыбор, які будзе вызначаць шчыльнасць трыкатажнага палатна.

У гутарку ўключаецца Лілія Цімафееўна Ламака. У яе цікавая спецыяльнасць—інжынер-радыёхімік. Дзяўчына расказвае:

— Каб даведацца, якой шчыльнасці тканіна, даводзіцца траціць вельмі многа часу. Чалавек гадзінамі падлічвае мікраскапічныя клетачкі на кавалачку матэрыялу. Наш жа прыбор зробіць гэта за адзін момант. Вас цікавіць — як? Вядома, што, чым радзейшая тканіна, тым больш радыёактыўных праменняў яна прапускае. Значыць, шчыльнасць яе будзе меншая. І наадварот. Прынцып, як бачыце, просты, хоць на распрацоўку такога прыбора наш калектыў паклаў нямала намаганняў.

Чарадзейныя прамені ізатопаў могуць палепшыць смакавыя якасці прадуктаў і падоўжыць тэрмін іх захавання. Работнікі лабараторыі абпраменілі партыю сідру Слуцкага завода. Вынік, як і трэба было чакаць, добры.

На чарзе — Скідзельскі цукровы завод. Чытаем пісьмо адтуль. Дырэктар і галоўны інжынер просяць работнікаў інстытута прыехаць да іх, пазнаёміцца з заводскай тэхнікай і заключыць дагавор на распрацоўку і ўстаноўку прыбораў, якія падоўжаць тэрмін захавання цукровых буракоў.

— А што гэта за пакецікі? — пытаемся ў Ліліі Цімафееўны.

— Нічога асаблівага, — усміхаецца інжынер, — звычайнае насенне памідораў. Яго прыслаў нам Інстытут харчовай прамысловасці. Просяць абпраменіць. Гэта, як вядома, паскарае паспяванне пладоў.

— Пры дапамозе ізатопаў мы рэгулюем на прадпрыемствах рэспублікі розныя вытворчыя працэсы, — расказвае малады вучоны. — Загляньце хоць бы на халадзільнік № 1 у Мінску.

Яўген Аляксандравіч бярэ аловак і малюе для нагляднасці.

— Вось гэта маслааддзяляльнік. Калі ўзровень масла ў ім падымецца вышэй устаноўленай нормы, можа адбыцца аварыя. Мы сканструявалі і ўстанавілі тут спецыяльны прыбор — сігналізатар аварыйнага ўзроўню. Прыбор пасылае прамені кобальту-60, якія праходзяць праз рэзервуар і ловяцца з другога боку прыёмнікам. Як толькі ўзровень масла дасягне гранічнай нормы, на кантрольным шчытку загарыцца лямпачка — і машыніст выключыць кампрэсар.

З гэтага і пачалося ўжыванне радыёактыўных ізатопаў у прамысловасці Беларусі. Супрацоўнікі лабараторыі ўстанавілі радыёактыўны лічыльнік на Мінскім малочным заводзе.

На Мінскім жа тонкасуконным камбінаце з дапамогай радыёактыўных ізатопаў вядзецца аўтаматычнае рэгуляванне працэсу сушкі і фарбавання тканін.

Усё новыя і новыя заказы паступаюць у лабараторыю. Яны ідуць з многіх прадпрыемстваў Савецкага Саюза.

Уступае ў размову галоўны інжынер лабараторыі Мікалай Васільевіч Глебка:

— У нас пытанне да гандлёвых арганізацый Мінска: чаму ў нашым горадзе няма магазіна радыёдэталей? Паспрабуйце дастаць патрэбную рэч! Купляць яе трэба пасылаць чалавека ў Харкаў ці Рыгу. На адну такую камандзіроўку траціцца нямала грошай. Уявіце, колькі ўсё гэта каштуе дзяржаве, тым больш, што радыёдэталі патрэбны не толькі нашай, але і многім іншым лабараторыям Акадэміі і навучальных устаноў.

З гэтымі словамі нельга не згадзіцца.

**К. СЯРГЕЕЎ.**

## Прэм'ера п'есы «Выгнанне блудніцы»

Новы спектакль па п'есе І. Шамякіна «Выгнанне блудніцы» паказаў Беларускі дзяржаўны драматычны тэатр імя Якуба Коласа.

Спектакль пастаўлены рэжысёрам Б. Браганцавым у мастацкім афармленні Я. Мікалаева. Музыку напісаў беларускі кампазітар І. Любан.

У галоўных ролях выступілі: народны артыст СССР А. Ільінскі, народныя артысты рэспублікі А. Шэлег, Ф. Шмакаў, заслужаныя артысты З. Канапелька, Я. Лагоўская і інш.

# Буржуазныя норавы

(Факты без каментарыяў)

### Дубінка з радыёперадатчыкам

На ўзбраенне англійскай паліцыі прынята мадэрнізаваная гумавая дубінка з умантыраваным у яе мініяцюрным радыёперадатчыкам на поўправадніках. Пры разгоне дэманстрацый паліцэйскаму дастаткова націснуць на маленькую кнопку на рукаятцы дубінкі, каб перадатчык аўтаматычна выклікаў з паліцэйскага ўчастка падмацаванне.

«Югенд унд тэхнік».

### Голая каралева

У англійскай калоніі Ганконг адбыліся чарговыя выбары «каралевы прыгажосці Ганконга». Пераможца конкурсу — «каралева» была прадстаўлена на ўсеагульны агляд зусім голай. Увесь касавы збор перададзен у «фонд барацьбы супраць чырвонага Кітая».

«НБІ».

### Падсалоджаныя кнігі

Рад амерыканскіх выдавецтваў пачаў выпускаць раманы з укладзенымі ў іх невялікімі пліткамі шакаладу. Прачытаўшы ці прагартаўшы належную колькасць лістоў, можна выняць з сярэдзіны чарговую плітку. Усяго ў раман укладваецца 5—10 плітак.

«Фольксштыме».

### Новы рэкорд

Мары Аштан з Манчэстэра без перапынку іграла на раялі 132 гадзіны. Гэтым яна на дзве гадзіны перавысіла папярэдні рэкорд у гэтай галіне. Пасля заканчэння спаборніцтваў Мары Аштан была завезена ў бальніцу ў карэце хуткай дапамогі.

«Юманітэ».

### Святы і грэшніца

Парыжскі тэатр «Камеды франсэз», які гасціў у Неапалі, намерваўся паказаць жыхарам Неапаля «Пакуты святога Себасцяна». Архібіскуп Неапаля Альфонса Кастальда забараніў пастаноўку на той падставе, што ролю святога Себасцяна выконвала парыжская прыма-балерына Чэрына. Жанчына не мае права выконваць ролю мужчыны, тым больш святога, заявіў архібіскуп.

«Морген».

### Дыплом за грошы

Пракурор Нью-Йорка вядзе справу па расследаванню дзейнасці агенцтва па аказанню дапамогі студэнтам і навуковым работнікам. За плату ад 18 да 180 долараў (у залежнасці ад цяжкасці прадмета) спецыяльныя агенты здавалі залікі і экзамены замест студэнтаў. За тры тысячы долараў у гэтым агенцтве можна было заказаць доктарскую дысертацыю. Як заявіў віцэ-прэзідэнт Нью-Хамшырскага ўніверсітэта доктар Эддзі, практыка атрымання дыпломаў праз падстаўных асоб існуе ва ўсіх навучальных установах краіны.

«Глазгоў геральд».

### Завяшчанне мільянершы

Адвакат пані Амі Ражэр Бахман, якая памерла 14 студзеня гэтага года ва ўзросце 75 год, апублікаваў яе завяшчанне, па якім яна пакідае: сыну — нічога, мужу — адзін долар і любімаму сабаку «Бінго» — 600 тысяч долараў. На гэтыя грошы сабаку будзе пабудаваны помнік.

«Морген».

### Алімпіяда нудзістаў

У горадзе Салбакен (Данія) нядаўна адбылася «міжнародная алімпіяда нудзістаў» (членаў секты, якія не прызнаюць адзення і ходзяць у чым маці нарадзіла. — Л. А.). Пасля заканчэння алімпіяды ўдзельнікі прынялі рэзалюцыю пратэсту супраць бельгійскага закону, які забараняе з'яўляцца голымі ў прысутнасці дзяцей. Удзельнікі алімпіяды таксама асудзілі распараджэнне французскага ўрада аб закрыцці лагера нудзістаў у Паўднёвай Францыі.

«Фольксштыме».

### Чхаць забараняецца

У Баварыі адбыліся чарговыя спаборніцтвы на першынство па нюханню тытуню. Згодна з умовамі спаборніцтва, прэміруецца спартсмен, які здолее на працягу дзвюх хвілін удыхнуць найбольшую колькасць нюхальнага тытуню, ні разу не чхнуўшы. Кожны, хто чхаў, падвяргаўся дыскваліфікацыі.

«Цэйт ім більд».

Праўленне Саюза пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне балгарскаму паэту Найдзену ВЫЛЧЭВУ, які зараз госціць у Беларусі, з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці БАЦЬКІ.

Галоўны рэдактар Нічыпар ПАШКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: Заір АЗГУР, Аляксандр БУТАКОЎ, Кастусь ГУБАРЭВІЧ, Васіль ІВАШЫН, Аркадзь МАРЦІНОВІЧ (адказны сакратар), Пятро ПРЫХОДЗЬКА, Раман САБАЛЕНКА (намеснік галоўнага рэдактара), Мікола ТКАЧОЎ, Янка ШАРАХОЎСКІ, Іван ШАЦІЛА, Рыгор ШЫРМА.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: г. Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 3-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 3-25-25, адказнага сакратара — 3-25-25, аддзела літаратуры—3-22-04, аддзела мастацтва — 3-24-62, аддзела культуры—3-20-54, выдавецтва—3-19-52, бухгалтэрыі — 3-11-03.

«Літаратура і мастацтва» выходзіць два разы на тыдзень: у аўторак і пятніцу.

АТ 00178

Друкарня імя Сталіна.